*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года   № 13(398)   31 САКАВІКА 1999 г.

## Хрыстос уваскрос!



З вялікім святам адвечнага аджыўлення віншую Цябе, Вялікі Беларускі Народ! Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, якім аблеплівалі Цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў Ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы :

**– Хрыстос уваскрос!**

Услухайся ў іх! якая вялікая сіла, які ўсёажыўляльны змест захаваны ў іх! Ці не чуеш, як радасцю надзеі, радасцю скорага ўваскрэсення вее на Цябе з гэтых слоў:

**– Хрыстос уваскрос!**

Радуйся, мой родны краю! Надзея, як жывучая вада льецца ў Тваю душу. Скора і Ты ўваскрэснеш ад доўгага, мёртвага сну. Вясна прыйшла і для Цябе.

**– Хрыстос уваскрос!**

Над ім здзекаваліся, яго білі па твары, сцёбалі бізуном, плявалі на яго, кпілі з яго, у канцы распялі і распятага не пераставалі мучыць. Спечаныя смагай вусны звільжвалі воцатам і жоўццю. Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў, але ўсё ж такі

**– Хрыстос уваскрос!**

Уваскрос Хрыстос і крыж - раней знак пагарды і сораму - зрабіўся святыняй усяго свету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго і штогоду вялікай вясенняй ночы тысячы царквоў і касцёлаў свецяцца агнямі свечак, льецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схілёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

**– Хрыстос уваскрос.**

Што гавораць Табе званы, беларускі народ? Ці не віншуюць яны Цябе яшчэ з Тваім уласным вялікім святам? Скора ж і Ты ўваскрэснеш.

Ад вякоў пагарджалі Табой, Тваёй мовай, ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі Табе расці і развівацца, воцатам чужой культуры звільжвалі Твае спечаныя смагай свету вусны. Лепшых Тваіх сыноў адрывалі ад Цябе, прымушалі іх рабіцца здраднікамі. А цяпер спяшаюць за імі, называюць іх сваімі. І яны іхнія. А хіба яны любілі не Цябе, хіба лепшы жар свайго сэрца ахвяравалі не Табе? А дзе яны? Іх няма з Табою.З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай і іх, Тваіх дзяцей, маюць за зброю проці Цябе.

Цябе катавалі, Ты цярпеў мукі, але не ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу. Хрыстос быў разам з Табой у Тваіх муках, і ён разам з Табой цярпеў іх. Колькі разоў распіналі яго разам з Табой? Больш разоў, чым ёсць пясчынак на дне мора. Але кожнага году па ўсёй беларускай зямлі разносіўся клік:

**– Хрыстос уваскрос!**

І Ты ўваскрэснеш, мой родны краю, скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

*Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных не можам пазбыцца слёз.*

Ты ўжо перастанеш плакаць, Ты ўжо падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

**– Бом, бом...**

Прачынайся ад сну Беларусь! Хопіць стагнаць ды жаліцца. Жальба нічога не дасць Табе. Уставай, ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну! Наперад, па шчасце, хай злое ўсё дрогне, вясна ўжо на свеце,

**–Хрыстос уваскрос!**

Я бачу, як святлее Твой твар, мой родны краю, і поўны сілы і веры я крычу ва ўсю моц Тваім нівам, лясом і балотам, Тваім панурым вёскам, пакрыўджаным сынам:

– З вялікім святам віншую, з вялікім святам, Вялікі Беларускі Народ!

**– Хрыстос уваскрос!**

***Паводле дэкламацыі Данчыка.***

## Рашэнні

### Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

26 сакавіка 1999 года ў Менску адбылося чарговае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Яна была прысвечана ў асноўным падрыхтоўцы і правядзенню чарговага з'езда ТБМ.

**Вырашана правесці VI з'езд ТБМ у Менску, 17 красавіка, у суботу, па працягу аднаго дня, у Доме літаратара па адрасу: вул. Фрунзе, 5.**

**Парадак работы VI з'езда ТБМ імя Ф. Скарыны**

8.30 рэгістрацыя дэлегатаў і гасцей з'езда;
10.00 адкрыццё з'езда.
Перапынкі пасля 2 гадзін працы.

1) Уступнае слова старшыні ТБМ Генадзя Бураўкіна - 12 хвілін;
2) Даклад першага намесніка старшыні ТБМ Алега Трусава "Два гады дзейнасці - стан спраў, праблемы, перспектывы" - 20 хвілін;
3) Даклад старшыні Рэвізійнай камісіі Уладзіміра Кішкурны - 10 хвілін;
4) Абмеркаванне дакладаў (7-10 хвілін);
5) Выбары кіраўнічых органаў ТБМ;
6) Зацвярджэнне рэдактара газеты ТБМ "Наша слова";
7) Прыняцце дакументаў з'езда:
- Прыняцце рэзалюцыі па Нацыянальным універсітэце;
- Прыняцце рэзалюцыі ў сувязі з невыкананнем у Рэспубліцы Беларусь "Закона аб мовах";
- Абмеркаванне падрыхтоўкі мерапрыемства па святкаванні 10-цігоддзя ТБМ.

Пры гэтым Сакратарыят паведамляе, што ўсім іншагароднім дэлегатам, якія будуць абраныя на з'езд ТБМ у адпаведнасці з квотай і рашэннямі Рады і Сакратарыята, будуць аплочаны грашовыя выдаткі за праезд у абодва бакі.

На радзе таксама былі разгледжаны ўсе факты, звязаныя з парушэннямі пад час правядзення ўсебеларускага перапісу насельніцтва і была прынятая адпаведная заява, якая будзе надрукавана.

Рада таксама звяртаецца да тых раённых арганізацый ТБМ, якія яшчэ не прадставілі ў Сакратарыят ТБМ адпаведных справаздач і не вылучылі дэлегатаў на з'езд. Калі да з'езда гэтая праца не будзе зроблена, вышэй згаданыя арганізацыі будуць ліквідаваныя.

***Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ.***

## Зварот Сакратарыята ТБМ

### да ўсіх раённых, гарадскіх і абласных Радаў ТБМ

Сябры!

Сакратарыят нагадвае, што тэрмін вылучэння дэлегатаў на з'езд ТБМ ( 17 красавіка) заканчваецца 1красавіка 1999 г. Просьба даслаць выпіскі з пратаколаў паседжанняў з прозвішчамі дэлегаваных Вамі асобаў да 1 красавіка. Нагадваем квоту для дэлегатаў у залежнасці ад колькаснага складу суполкі: 3 - 10 чалавек - 1 дэлегат, 10-30 чалавек - 2 дэлегаты, 30 і больш - 3 дэлегаты.

Увага! Да 13 красавіка ўсім абласным, гарадскім і раённым Радам неабходна даслаць у Сакратарыят спісы ўсіх сяброў мясцовых суполак і Радаў ( прозвішча, імя, імя па бацьку), а таксама запоўненыя і падпісаныя скарбовыя лісты са складкамі за 1998 год ( з подпісам кожнага сябры суполкі).

Нагадваем, што тая суполка ці Рада, якая не вышле неабходную дакументацыю ў акрэслены тэрмін, будзе зліквідаваная, а яе дэлегаты не будуць дапушчаныя на з'езд.

P.S. Усю дакументацыю і лісты дасылаць на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава 13, ці праз электронную пошту tbm@tbm.lingvo.minsk.by

## Пікет у Пінску




14 сакавіка 1999 года ў Пінску прайшоў пікет, прысвечаны Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года і ў абарону беларускай мовы. Пікет ладзіла ТБМ г. Пінска пры падтрымцы Пінскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэньне". Упікеце пpыняло ўдзел каля двух дзесяткаў чалавек



№ 13(398) 31 САКАВІКА 1999 г. Наша слова

# ПРА МОВУ І НЕ ТОЛЬКІ

Зборнік "Культура беларуска-польска-украінскага пагранічча" — чарговае выданне Міжнароднай Акадэміі нацыянальных меншасцяў па праблемах культуры беларускага памежжа. Яго змест склалі матэрыялы 2-й міжнароднай канферэнцыі па згаданай праблеме, якая адбылася ў г.Бярэсці.

Работа Берасцейскай канферэнцыі праходзіла ў рамках чатырох секцый: гісторыі ўзаемаўплыву культур народаў беларуска-польска-украінскага сумежжа; міжкультурных кантактаў народаў згаданага памежжа ў цяперашні час; этналінгвістычных асаблівасцяў беларуска-польска-украінскага сумежжа; пытанняў рэгіянальных адукацый на беларуска-польска-украінскім памежжы.

Для разгляду на канферэнцыі былі прадстаўлены даклады навукоўцаў з Беларусі, Польшчы, Летувы, Расеі, Украіны, Канады, Германіі, ЗША. Шырока былі прадстаўлены вядучыя навуковыя цэнтры Польшчы (15 удзельнікаў), шэсць дакладаў на канферэнцыю прадставілі навукоўцы з Летувы.

Зборнік складаецца з трох частак — "Гісторыя", "Сучаснасць", "Мова" — і змяшчае матэрыялы на мовах аўтарскіх арыгіналаў: беларускай, украінскай, польскай, англійскай, расейскай.

Характэрнай рысай зборніка з'яўляецца ахоп шырокага спектару праблем міжкультурных узаемадачыненняў трох славянскіх народаў. Сярод іх важнае месца, безумоўна, займае канфесіяльная культура беларускага памежжа, у тым ліку іканапісная культура Берасцейшчыны, якая, як сведчаць матэрыялы зборніка, дасягнула свайго росквіту ў сярэдзіне XVII стагоддзя і пакінула нам у спадчыну цэлы шэраг выдатных па сваіх мастацкіх якасцях абразоў. Некаторыя з іх — абразы "Замілаванне" (1646 г.), "Праабражэнне" (1648 г.) і інш. — захоўваюцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і Музея старажытнабеларускай культуры ў Менску. Значная частка берасцейскіх абразоў XVII ст. апынулася ў Луцку і складае аснову збораў адкрытага ў гэтым украінскім горадзе музея валынскай іконы. На думку даследчыкаў, гэтыя абразы маглі трапіць у храмы суседняй Валыні толькі ў XIX стагоддзі, пад час руйнаванняў у 1833-42гг. старога Бярэсця і яго святынь і пабудовы на яговым месцы крэпасці.

Як адзначаецца ў зборніку, розныя рэгіёны беларускага памежжа маюць адметны рэлігійны фон. Як сведчаць вынікі сумесных беларуска-польскіх даследаванняў, у памежных з Беларуссю гмінах Польшчы да ліку веруючых адносяць сябе 87% насельніцтва, у той час як у памежных з Польшчай раёнах Беларусі — толькі 40%, а ў памежных з Расеяй раёнах Гомельшчыны гэта лічба складае ўсяго 26%.




Прыведзеныя ў зборніку вынікі апытанняў НАН Беларусі сведчаць аб тым, што да 88% насельнікаў беларускага памежжа ведаюць беларускую мову ў розных яе варыяцыях. Гэтыя лічбы, заўважым, не шкодзіла б ведаць тым, хто імкнецца выціснуць родную мову беларусаў з штодзённага ўжытку, выдаліць яе з сферы нацыянальнай адукацыі, справаводства, сродкаў масавай інфармацыі.

Характэрна, што даследванні пацвярджаюць у цэлым высокую ступень талерантнага стаўлення жыхароў беларускага памежжа да прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў. Так, доля пазітыўных адказаў склала: у адносінах да беларусаў — 90,3%, расейцаў — 85,6%. Станоўча ставяцца да ўкраінцаў 65,9% жыхароў беларуска-польска-украінскага сумежжа, да палякаў — 64,7%, да летувісаў — 42,3%, да яўрэяў — 40,7%. Татары атрымалі 33,3%, а цыганы — 29,2% пазітыўных адзнак. Цікава таксама, што 45,7% жыхароў беларускага памежжа станоўча ставяцца да немцаў і 44,6% — да амерыканцаў.

У зборніку даецца адмоўная ацэнка сілам, якія імкнуцца дэстабілізаваць этнакультурную сітуацыю ў паўднёва-заходнім рэгіёне Беларусі, называюць тэрыторыю Брэстчыны не інакш як "украінскім краем", абвяшчаюць украінскую культуру "мацер'ю сучаснай беларускай культуры", а беларускую мову — "червонорусским или галицким наречием". Як сведчаць вынікі этнасацыялагічных даследванняў НАН Беларусі, у прымежных з Украінай раёнах Берасцейскай вобласці ўкраінскай мовай карыстаюцца ў побыце не больш за 3,9% іх жыхароў. Па дадзеных маніторынгавага даследвання, праведзенага на працягу 1990-х гадоў сярод розных груп насельніцтва паўднёва-заходняга рэгіёна Беларусі, украінцамі лічаць сябе 4,7% рэспандэнтаў, у той час, як з беларусамі ідэнтыфікуюць сябе 83,8% усіх апытаных жыхароў прымежнага рэгіёна.

Цікавасць выклікаюць матэрыялы, якія прадстаўлены ў раздзеле "Мова". Сярод іх звяртае на сябе ўвагу артыкул прафесара Г.Давідзюка, у якім упершыню прадпрымаецца спроба прасачыць ролю польскай мовы, як сродка захавання нацыянальнай культуры беларусаў у часы панавання Расейскай імперыі. Ва ўмовах афіцыйнай забароны царызмам беларускай мовы такія класікі беларускай літаратуры, як Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Ян Баршчэўскі, Янка Лучына, Францішак Багушэвіч і іншыя, пачынаючыя з 40-х гадоў XIX стагоддзя пісалі і друкавалі свае творы на польскай мове. На думку аўтара, гэта садзейнічала захаванню беларускай культуры ў неспрыяльны для яе перыяд.

У артыкулах вучоных-лінгвістаў з Летувы — дактароў філалогіі Н.Авінай, Д.Эйгірдэне, Л.Бурэнінай і інш. — прадстаўлены шырокі спектр запазычванняў з беларускай мовы ў гутарковай мове жыхароў прымежных рэгіёнаў Летувы. Як адзначаюць даследчыкі з Шчэцінскага універсітэта Э.Секежыцкі і Б. Франкоўска-Козак, у гутарковай мове асоб, перасяленых пасля другой сусветнай вайны з рэгіёнаў беларускага памежжа на новую польска-нямецкую мяжу, нават цяпер, нягледзячы на працягласць тэрміну, захоўваюцца дыялектныя своеасаблівасці беларускай мовы (што, заўважым, лішні раз сведчыць аб выключнай яе "жывучасці").

Падрыхтавалі зборнік да выдання рэдактары — прафесар Сяргей Яцкевіч з Бярэсця і прафесар Ян Францішак Насовіч з Беластоку.

З матэрыяламі зборніка можна азнаёміцца ў цэнтральных і абласных бібліятэках Беларусі.

*Старшыня аргкамітэта міжнароднай канфедэрацыі "Культура беларуска-польска-украінскага сумежжа" д.ф.н., прафесар Сяргей Яцкевіч, г. Бярэсце.*

---

**Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей**

**International Academy of National Minorities' Research**

19-21траўня1999г адбудзецца 3-я Міжнародная навуковая канферэнцыя па культуры беларускага памежжа: **"КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКА-РАСЕЙСКАГА СУМЕЖЖА".**

Папярэднія канферэнцыі, праведзеныя Міжнароднай Акадэміяй вывучэння нацыянальных меншасцяў, былі прысвечаны:

— 1-я канферэнцыя (Гародня-Вільня, 3-4.06.1997г. праблеме: "Культура беларуска-польска-летувіскага сумежжа";

— 2-я канферэнцыя (Бярэсце, 15-16. 10.1998г.) праблеме: "Культура беларуска-польска-ўкраінскага сумежжа".

Выдадзены чатыры зборнікі матэрыялаў згаданых канферэнцый.

На 3-й канферэнцыі плануецца абмеркаванне наступных пытанняў:

1. Уздзеянне гістарычных калізіій на культуры народаў беларуска-ўкраінска-расейскага сумежжа: беларусаў, расейцаў, украінцаў, яўрэяў і інш.

2. Узаемаўплыў культур народаў беларуска-ўкраінска-расейскага сумежжа ў цяперашні час.

3. Багацце культур — багацце моў: этналінгвістычныя асаблівасці рэгіёна.

Магчыма абмеркаванне таксама іншых пытанняў тэматычнага поля згаданай канферэнцыі.

Тэксты паведамленняў аб'ёмам да 5 старонак разам з іх запісам на дыскеце ў праграме WORD 6,0 або WORD 7,0 дасылайце, калі ласка, у 2-х экз. да 06.04.1999 г. на адрас: Беларусь. 224030. г.Брэст -30. Аб.скрыня № 14. Праф. Яцкевічу С.А. У выпадку, калі ў аўтара адсутнічае магчымасць набору тэкста на камп'ютары, ён можа прадставіць яго ў машынапіснай форме. Тэксты павінны быць арфаграфічна і стылістычна выверанымі і адпавядаць тэматыцы канферэнцыі, пры гэтым мову тэкста вызначае сам аўтар. Разам з матэрыяламі неабходна прадставіць інфармацыю аб аўтары (аўтарах) з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, акадэмічнага звання (калі ёсць), месца працы і тэлефона.

Аргкамітэт пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнікі матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі плануецца выдаць да пачатку яе правядзення. Дыскеты вяртаюцца пры рэгістрацыі.

Тэлефон для даведак у г.Бярэсці: 26 - 25 - 14.

АРГКАМІТЭТ

---




## Да юбілею выйдзе зборнік

1999 год абвешчаны годам Пушкіна. Да 200-гадовага юбілею з дня нараджэння класіка расейскай літаратуры Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны рыхтуе зборнік "А. С. Пушкін і Беларусь. Дзякуючы цікаваму даследчыцкаму матэрыялу беларускіх навукоўцаў, краязнаўцаў, журналістаў, пісьменнікаў шырокаму колу чытачоў адкрываюцца раней маладаведамыя старонкі жыцця і творчасці А. С. Пушкіна і яго сувязяў з нашай Бацькаўшчынай, якія ўпершыню сабраны разам. Пра гэта паведамляе першы нумар часопіса "Кантакты і дыялогі". У часопісе змешчаны таксама артыкул Ігара Сцяпуніна "Пушкінскі юбілей 1899 г. у Мінску".

## Кожнай зёлцы пакланіцца

Зялёнае насельніцтва нашае зямлі – не трава – мурава. Кожная раслінка, таксама, як і мы з вамі, мае сваё найменне. То чаму нам, іх парасткам, ды яшчэ адарваным ад мацерыковых карнявішчаў, не шкадаваць, не берагчы іх дзірваное ўдзержаўленне?

Зборнік вершаў, які называецца "Золкая зёлка", знаходзіцца зараз у наборы ў выдавецтве "Юнацтва". Выйдзе кніжка ў другім квартале. Спавяшчаю аб гэтым, каб потым супрацоўнічаць са сваімі чытачамі. Турбота пісьменніка такая: даў Бог дачакацца выдання, то трэба паклапаціцца і аб збыце кніжачкі.

Некалькі твораў з майго паэтычнага "зельніка" перасылаю на высед рэдакцыі "Нашага слова". Дарэчы, у нядаўнім часе выдавецтва "Юнацтва" было калектыўным сябрам ТБМ. І для будучага музея Таварыства беларускае мовы ў мяне захаваліся скарбавыя лісты з пазначэннем унёскаў "юначак" і "юнакоў" у падтрымку ТБМ.

*Сяргей Панізьнік. Менск.*




У Берасці ў выдавецтве С. Лаўрова выйшла кніга камянецкага аўтара Івана Жытко "Смех на высадку". Гумарыстычныя творы былога супрацоўніка міліцыі незласлівыя, прасякнутыя добразычлівою ўсмешкаю. Шмат якія сюжэты для іх узяты з жыцця.

Кніга ўключае 15 гумарэсак і мае наклад 25 асобнікаў.

## Мовалюбная Дзяржава

Поле Грунвальда іржала…
Чула слова
звон кінжала.
Абаронцаў нараджала
слава горада, сяла.
Ворагу
зламалі джала:
слоў ілжывых,
слоў іржавых
не дапусцім да жытла!

Мовалюбная Дзяржава –
непарушная скала!

*Сяргей Панізнік*

# Слова да беларускага народа

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў"

*( Працяг. Пачатак у № 12)*

Пасля падзелу хрысціянскай царквы ў 1054 г. на дзве канфесіі – праваслаўную і каталіцкую, насельніцтва беларускіх зямель, большасць якога была ахрышчана па ўсходняму абраду, сталася праваслаўнай. Уплыў каталіцтва на нашы тэрыторыі пашырыўся ў канцы ХІУ ст. пасля заключэння Крэўскай уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчаю. Каталіцкую веру прымала пераважна балцкае насельніцтва. У канцы ХІУ ст. на тэрыторыі Беларусі існавала тры каталіцкія парафіі, пазней іх колькасць значна павялічылася. У далейшым каталіцкае веравызнанне прымала і апалячаная беларуская шляхта.

Многія беларусы ў сярэднявеччы далучыліся да руху Рэфармацыі і сталі пратэстантамі. У Беларусі распаўсюдзіліся такія плыні пратэстантызму як кальвінізм, лютэранства.

У канцы ХУІ ст. у Вялікім Княстве Літоўскім узнікла новая царква – уніяцкая або грэка-каталіцкая, якая аб'ядноўвала праваслаўных і каталіцкіх вернікаў у адзіную рэлігійную плынь.

Хрысціянства стала пануючай рэлігіяй у Беларусі. Хрысціянская мараль адпавядала сутнасці характару беларусаў і ляжала ў аснове маральных каштоўнасцяў нашага народа. Побач з хрысціянскаю верай у Беларусі мірна ўжываліся і іншыя веравызнанні – мусульманства, іудаізм. Жывучы на мяжы двух сусветаў – заходняга і ўсходняга – нашы продкі выхоўвалі ў сабе павагу да розных рэлігійных арыентацый, тым самым зберагалі мір і спакой у сваёй дзяржаве. Высакародны дух рэлігійнай талерантнасці быў уласцівы беларусам на працягу ўсёй гісторыі і стаў адметнай рысай нацыянальнага характару.

Мінулае, сучаснае і будучыню беларускай нацыі лучыць наша нацыянальная мова, што ўзнікла ў старажытнасці і сфармавалася разам з беларускі этнасам. Беларуская мова належыць да славянскай групы індаеўрапейскай моўнай сям'і. Як у еўрапейскіх народаў, у беларусаў перашапачаткова існавала вусная моватворчасць. У Х ст. з прыняццем хрысціянства з'явілася пісьмовая мова на стараславянскай аснове, якую заклалі знакамітыя славянскія асветнікі Кірыла і Мяфодзій. Усходні варыянт стараславянскай мовы вядомы, як царкоўнаславянская мова, на ёй пісаліся царкоўныя кнігі ў часы Еўфрасінні Полацкай. У свецкіх дакументах выкарыстоўвалася не толькі царкоўнаславянская, але і жывавя народная гаворка. Так яшчэ у Х-ХІІІ ст.ст. пачала фармавацца самастойная старажытнабеларуская мова. Яна паступова пранікала ў царкоўную літаратуру і выцясняла царкоўнаславянскую мову. Прыкладам гэтага стала выданне Біблії Францыскам Скарынам, ў складзеных ім прадмовах і пасляслоўях паспяхова спалучаліся элементы царкоўнаславянскай мовы і народнай гаворкі. Паслядоўнікі Скарыны – Сымон Будны, Васіль Цяпінскі далі народу асобныя рэлігійныя творы ўжо толькі на роднай мове.

Беларуская мова дасягнула росквіту ў Вялікім Княстве Літоўскім, яна была асноўнай пісьмовай моваю дзяржавы ад самага пачатку яго стварэння ў ХІІІ ст. У той час многія еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку суседняя Польшча, карысталіся ў дзяржаўных справах агульнай лацінскай моваю. Па гэтай прычыне беларускую мову можна лічыць адной з самых старажытных нацыянальных дзяржаўных моваў у Еўропе. Напрыклад, ангельская мова набыла статус дзяржаўнай у ХІУ ст. (1362г.), а французская – толькі ў 1400 годзе.

Аднак, ужыванне беларускай мовы стала звужацца пасля аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Польшчаю у канфедэрацыю – Рэч Паспалітую (1569г.), дзе ў хуткім часе пачалася паланізацыя. У 1696 г. беларуская мова ў справаводстве ВКЛ была заменена на польскую. Пасля далучэння да Расейскай імперыі беларуская мова цалкам была вывезена з пісьмовага ўжытку. Усё гэта прывяло да таго, што старабеларуская пісьмовая мова часоў Вялікага Княства Літоўскага паступова адмерла.

Адраджэнне нацыянальнай пісьмовай мовай было распачата беларускай інтэлігенцыяй у першай чвэрці ХІХ ст. Працэс фармавання новай літаратурнай мовы расцягнуўся больш чым на стагоддзе. Ён рэзка паскорыўся ў пачатку ХХ ст., калі пачалі выдавацца ў 1906 г. у Вільні першыя газеты на беларускай мове – "Наша доля" і "Наша Ніва". Адроджаная беларуская мова набыла дзяржаўнае прызнанне ў час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі, незалежнасць якой была абвешчана ў сакавіку 1918 г.

Сучасная літаратурная беларуская мова развівалася на аснове шматдыялектнай народнай мовы. У 1918 г. вядомы дзеяч новага беларускага адраджэння Браніслаў Тарашкевіч унармаваў првілы пісьма і выдаў першую граматыку беларускай мовы. Яна шырока прымянялася ў адукацыі і атрымала ў далейшым назву ў народзе "тарашкевіца". На пачатку 30-х гадоў, калі ўсталявалася сталінская дыктатура, правапіс Тарашкевіча быў істотна зменены ў кірунку русіфікацыі. У сваёй аснове савецкі правапіс прадаўжае выкарыстоўвацца ў сучаснай Беларусі. "Тарашкевіца" захоўвалася ў Заходняй Беларусі, у асяроддзі беларускай эміграцыі. У самой Беларусі яна ізноў з'явілася ў друку ў час новага беларускага адраджэння. На "тарашкевіцы" выдаецца зараз аднаўленная газета "Наша Ніва", яе выкарыстоўваюць іншыя выданні.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-х гадоў прывялі да аднаўлення дзяржаўнага статусу беларускай мовы. 26 студзеня 1990 г. былі прыняты закон аб мовах, якім наша мова вызначалася як адзіная дзяржаўная мова ў Беларусі. Гэты статус быў замацаваны ў першай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. Аднак змаганне за адраджэнне сваёй мовы для беларускага народу не скончылася. У выніку рэферэндума 1995 г. статус дзяржаўнай быў нададзены і расейскай мове, гэта дазволіла ўладам ператтварыць яе практычна ў адзіную дзяржаўную мову ў Беларусі. Ізноў беларуская мова апынулася перад пагрозаю выцяснення са сваіх родных абшараў. Ізноў мусім змагацца за матчына слова. Будзем памятаць незабыўныя словы Францішка Багушэвіча "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

Наш абавязак захаваць, як самастойнай этнічнай супольнасці ў новым тысячагоддзі. Будзем верыць, што глыбокія карані нашай мінуўшчыны ўтрымаюць і надалей наша беларускае радаводнае дрэва!

### 2. ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ

Галоўным дасягненнем беларускай нацыі на яе гістарычным шляху з'яўляецца ўласная дзяржаўнасць. Элементы дзяржаўнай арганізаванасці на нашай зямлі, як ужо азначалася, складваліся ў першым тысячагоддзі н.э. Старажытныя племянныя саюзы паступова перараслі ў дзяржаўныя супольнасці – княствы. Найбольш буйным з іх было Полацкае.

Першае летапіснае ўпамінанне пра яго належыць да 980 г., згадваецца князь Рагвалод, што княжыў у Полацку. Полацкае княства было першай старажытнай беларускай дзяржаваю з усімі адпаведнымі атрыбутамі – суверэннай уладаю княжацкай дынастыі і веча, адміністрацыяй, уласным войскам, грашовай сістэмай. Полацкая княжацкая дынастыя Рагвалодавічаў запачаткавала радавод беларускіх князёў. У гістарычных дакументах прыгадваецца Рагнеда, дачка Рагвалода, князі Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей.

Найвышэйшай магутнасці княства дасягнула ў другой палове ХІ ст. пры Усяславу Чарадзею. У гэты час у Полацку быў збудаваны велічны Сафійскі сабор, ён сімвалізаваў роўнасць Полацка з Ноўгарадам і Кіевам. Полацкае княства ахоплівала большую частку тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яму належалі землі ўздоўж Дзвіны да Балтыйскага мора, дзе пачынаўся вялікі гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі". Гэта было важнай прычынаю эканамічнага і палітычнага росквіту княства.

Значнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Беларусі ў той час былі Тураўскае і Смаленскае княствы, потым Менскае, Гарадзенскае, Навагрудскае, Пінскае, Віцебскае, Друцкае і інш.

У сярэдзіне ХІІІ ст. Полацкае княства страціла сваю значнасць як цэнтр палітычнага жыцця на беларускіх землях. Падзеі, што адбываліся на пачатку ХІІІ ст., ускладнілі далейшае развіццё нашай старажытнай дзяржавы. У 1201 г. немцамі ў вусці Дзвіны была заснавана Рыга, а праз год тут узнік ордэн мечаносцаў (Лівонскі ордэн). Усё гэта ствара непасрэдную пагрозу для Полацка, прывяло да страты выхаду да мора, адмоўна паўплывала на эканамічнае жыццё княства.

У гэты час знешняя небяспека навісла над усімі абшарамі будучай Беларусі. З Поўначы і Захаду пагрозу стварапі Лівонскі і Тэўтонскі крыжацкія ордэны, з Поўдня і Усходу – мангола-татарскія орды. У такіх умовах на беларускіх землях пачынае выдзяляцца новы палітычны цэнтр у рэгіёнах Верхняга і Сярэдняга Панямоння, дзе на той час існавалі балцкія племянныя аб'яднанні і славянскія гарады – дзяржавы: Навагародак, Гародня, Слонім, Ваўкавыск. Славянскае і балцкае насельніцтва жыло тут уперамешку, "плямамі". Мірнае суіснаванне славянаў і балтаў, іх супрацоўніцтва былі важнымі прычынамі эканамічнага і культурнага росквіту рэгіёна, найперш гарадоў. Спрыяла паспяховаму развіццю выгаднае геаграфічнае становішча, што рабіла гэтую тэрыторыю самай бяспечнай, да яе не даходзілі крыжакі і мангола-татары. У ХІІ ст. за рэгіёнам замацавалася назва Літва, яна паходзіла ад адназменнай назвы буйнага балцкага племяннога аб'яднання. Менавіта дадзеныя землі і сталі месцам нараджэння новай славяна-балцкай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага.

Непасрэдным штуршком да развіцця працэсу дзяржаваўтварэння стала знешняя небяспека з боку крыжакоў і мангола-татараў, якая прымусіла жыхароў гэтых заможных земляў дбаць пра самазахаванне. Ініцыятыву заснавання новай дзяржавы, што аб'ядноўвала славянскія і балцкія землі ў адзінае цэлае і стала моцнай перашкодаю на шляху заваёўнікаў, узялі на сябе феадалы найбольш развітага тагачаснага славянскага горада Навагародка. (Цяпер Навагрудак). Прыкладна ў 1248 г. яны заключылі саюз з адным з найбольш уплывовых балцкіх князёў – Міндоўгам. Міндоўг быў запрошаны на пасад навагародскага князя і, будучы язычнікам, прыняў хрысціянства.

Першым крокам у збіранні земляў вакол Навагародка, які адразу вылучыўся як палітычны цэнтр і першая сталіца новай дзяржавы, стала заваёва і далучэнне да яго балцкіх і славянскіх земляў у цэнтральнай і паўночна-усходняй Беларусі. У 1253 г. Міндоўг са згоды Папы Рымскага прыняў каралеўскі тытул і стаў вялікім князем. Значных поспехаў у будаўніцтве дзяржавы дасягнуў яго сын Войшалак.

У Вялікім Княстве Літоўскім была прынята славянская сістэма дзяржаўнай арганізацыі, яна зыходзіла ад навагародскай сістэмы грамадскага ўпарадкавання. Славянская частка ВКЛ значна пераважала балцкую і была больш развітаю ў сацыяльна-эканамічным і культурным плане. Балты ў той час яшчэ нават не мелі свайго пісьменства. Старабеларуская мова славянскага насельніцтва стала дзяржаўнай моваю ВКЛ. Беларуская культура дамінавала. Прадаўжалася славянізацыя мясцовых балтаў, яны пачалі ўжываць беларускую мову і на побытавым узроўні. Славянская перавага была канчаткова замацавана пасля далучэння да ВКЛ Полацкага княства ў 1307 г.

На пачатку ХІУ ст. пазіцыі ВКЛ значна ўмацаваліся. Спрыяла гэтаму палітыка забяспячэння адзінства дзяржавы, якую праводзіў вялікі князь Віцень. Пры наступных вялікіх князях Гедыміне і Альгердзе Вялікае Княства Літоўскае стала магутнай еўрапейскай дзяржавай. Яго тэрыторыя распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора, ад Берасцейшчыны да вярхоўяў Акі. Пераважную частку ВКЛ складалі славянскія землі, балцкія землі займалі 1\5 частку ад усёй плошчы.

У 1323 г. князь Гедымін перанёс сталіцу спачатку ў Трокі, а потым ў Вільню, якая засталася палітычным цэнтрам ВКЛ да канца яго існавання. Вільня была заснавана славянамі-крывічамі, што з'явіліся на гэтых землях у УІ-УІІ ст.н.э. У ХІ ст. Вільня згадваецца, як паселішча крывічоў пад назваю Крывы (Крывіч) – горад. У другой палове ХІ ст. горад саў цэнтрам Віленскага княства, на тэрыторыі якога жылі славяне і балты. Доўгі час пасля знікнення ВКЛ для беларусаў Вільня заставалася цэнтрам палітычнага і культурнага жыцця. У кастрычніку 1939 г. Вільня была перададзена Сталіным, нашай суседцы – Летуве і застаецца сталіцаю гэтай краіны.

*(Працяг у наст. нумары)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 29. 03. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 608.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 5 000 руб.